*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2019, № 2(36). Люты

## Хто ж першы згадаў пра “палі Слонімскія” у 1040 годзе?

У мінулым нумары “СК” мы пісалі пра таямнічую згадку пра “палі Слонімскія” у 1040 годзе, на якіх нібыта адбылася бітва паміж войскам кіеўскага князя Яраслава і войскам літвінаў.[1] Яна сустракаецца ў працах польскіх гісторыкаў XIX ст. і першых дзесяцігоддзяў XX стагоддзя. Аўтары тых публікацый у шэрагу выпадкаў спасылаліся на гісторыка XV ст. Яна Длугаша. І многія ў гэта верылі, згадка вандравала з кнігі ў кнігу, з публікацыі ў публікацыю. Але ў 12-томнай “Гісторыі Польшчы” Длугаша пра гэта нічога няма. Паспрабуем разабрацца.



*Малюнак з кнігі Уладзіміра Арлова і Паўла Татарнікава “Айчына: маляўнічая гісторыя”*

*Працяг на ст.3.*

## Шляхамі Ордаў

Запрашаю ў маёнтак Пятра Орды

Дзесяць гадоў мая сям’я жыла ў вёсцы Дзеравянчыцы, таму не зацікавіцца гісторыяй гэтага населенага пункта я проста не магла. Усе гэтыя гады я шукала і працягваю па крупінках збіраць матэрыялы пра гісторыю рода Пятра Орды. Вывучаю дакументы ў Нацыянальным гістарычным архіве ў Гродне, краязнаўчую літаратуру, гутару са старымі людзьмі суседніх вёсак і Дзеравянчыц. З кожным крокам цікавасць толькі ўзмацняецца. Паціху збіраюцца разнастайныя матэрыялы пра Ордаў, як вялікая гульня-пазл, у якой большасць элементаў раней былі страчаны.

*Працяг артыкула Святланы Брайчук — на ст.7.*

## Песня Сямёна Рыпінскага



Доктар філалагічных навук, прафесар Варшаўскага ўніверсітэта Мікола Хаўстовіч даслаў у рэдакцыю “Слонімскага краю” сенсацыйную архіўную знаходку — вершаванае апавяданне, якое было напісана Сямёнам Рыпінскім, жыхаром вёскі Казловічы былога Слонімскага павета (цяпер гэта Зэльвенскі раён). Створана яно 152 гады таму. Апавяданне прысвечана двум рабочым, якія займаліся зладзействам на спіртзаводзе і якім не выплацілі заробак.

У творы пералічваюцца населеныя пункты, суседнія з Сынковічамі, і прозвішчы

*Працяг на ст.12.*

# На капліцы-помніку з'явіўся купал



8 лютага ў Слоніме асвяцілі і ўсталявалі купал на праваслаўнай капліцы-помніку (яна знаходзіцца недалёка ад крамы "Лета" і баранавіцкага моста). Капліца будуецца брацтвам, якое існуе пры Свята-Троіцкім саборы.

*Фота: eparhia.by*

# Новы экспанат у жыровіцкім музеі

У студзені ў Жыровічах у царкоўна-археалагічным музеі Мінскай духоўнай семінарыі з'явіўся новы экспанат — памятны срэбраны жэтон, выраблены ў 1730 годзе ў гонар каранацыі Жыровіцкай іконы Маці Божай. Гэта была значная падзея ў тагачаснай Рэчы Паспалітай. Святыня ў той час была ўніяцкай.

Жэтон набыла група мецэнатаў, якая ахвяравала яго музею. Каштоўны экспанат змясцілі ў зале, прысвечанай гісторыі манастыра.

*Фота: minds.by*

## ХРОНІКА

# Схема свята




З'явілася схема размяшчэння ў Слоніме асноўных пляцовак Дня беларускага пісьменства, які будзе адзначацца 1 верасня. Галоўная сцэнічная пляцоўка вызначана перад Цэнтрам культуры. На адным са слайдаў, змешчаных на сайце "Слонімскага весніка", можна пабачыць, што ўжо вядома дакладнае месца ўсталявання помніка Льву Сапегу.


slonves.by



# Хто ж першы згадаў пра "палі Слонімскія" у 1040 годзе?

*Працяг, пачатак на ст.1.*

Наш зямляк гісторык Васіль Мялешка пісаў у пачатку 1960-х гадоў: *"Першая летапісная згадка пра Слонім адносіцца да 1040 года і звязваецца з барацьбой старажытнарускага князя Яраслава Уладзіміравіча супраць літоўцаў, якія жылі побач з дрыгавічамі. У польскім летапісе адзначаецца, што князь Яраслаў Уладзіміравіч у 1040 годзе атрымаў перамогу над літоўцамі і абавязаў іх плаціць даніну"*.[2]

Мялешка не ўдакладніў, што ж гэта за "польскі летапіс". Яго кніга была навукова-папулярная, дакладная спасылка не патрабавалася. Аднак нам вядома, што падчас напісання кнігі пра Слонім гісторык карыстаўся працай даследчыка Годэля Гольдберга, які выдаў яе ў міжваенны час.[3] Між іншым Васіль Мялешка ўзяў у Гольдберга памылковую дату пачатку польскай акупацыі ў нашым горадзе ў 1920-м.[4] Атрымліваецца, што "пазычыў" і згадку пра 1040 год. Годэль Гольдберг пад гэтай датай згадаў бітву "на палях слонімскіх" са спасылкай на Длугаша, але без пазначэння кнігі, старонкі.[5] Мялешка, магчыма, зазірнуў у працы польскага гісторыка і не знайшоў такога эпізоду. Але сумніўную дату пакінуў, вырашыў толькі напісаць пра "польскі летапіс".

Ну, а адкуль гэтую дату ўзяў Гольдберг? На яго працоўным стале ляжалі выданні польскіх і рускіх гісторыкаў XIX стагоддзя.[6] Іх вывучаў і гісторык Васіль Супрун, які ў кнізе "Дзеі над Шчарай" напісаў наступнае: *"Гісторыкі XIX стагоддзя М. Балінскі і Т. Ліпінскі, спасылаючыся на польскага гісторыка-храніста XV стагоддзя Яна Длугаша, паведамлялі, што ўжо ў 1040 годзе кіеўскі князь Яраслаў Уладзіміравіч, "спаткаўшыся на палях слонімскіх з літвінамі, перамог іх так, што затым, праехаўшы ўласна Літву да самага Нёмана, прымусіў яе да падпарадкавання на час нейкі". На думку гісторыкаў, калі існавалі "палі слонімскія", то лагічна, мусіў існаваць і сам Слонім. Такім чынам, спасылаючыся на Длугаша, у гістарычных даведках аб Слоніме з'явілася і другая дата — 1040 (памылкова — 1036) год, як пачатак існавання горада, першае ўпамінанне аб ім у хроніках. Праўда, аўтар гэтай кнігі, знаёмячыся з сучаснымі польскімі перавыданнямі Я. Длугаша, не знайшоў згадак аб "палях слонімскіх". Але сам факт упамінання аб паходзе Яраслава Мудрага ёсць. Узгадваецца ён пад 1040(6548) годам і ў старажытнарускім летапісе "Повесть временных лет"*.[7]




*Слонім, 1973 г. З архіву Уладзіміра Гваздзецкага / radzima.net*



STAROŻYTNA POLSKA

pod względem

HISTORYCZNYM, JEOGRAFICZNYM

I STATYSTYCZNYM

opisana przez

Michała Balińskiego i Tymoteusza Lipińskiego

WYDANIE DRUGIE

poprawione i uzupełnione

przez

F. M. Martynowskiego.

Tom IV.

Як бачым, Супрун, у адрозненне ад Гольдберга, уважліва правяраў крыніцы. Аўтар гэтых радкоў таксама перагледзеў адно з перавыданняў "Гісторыі Польшчы" Яна Длугаша і згадкі пра Слонімшчыну не знайшоў. Васіль Рыгоравіч назваў працу польскіх гісторыкаў Балінскага і Ліпінскага. Што гэта яны запусцілі згадку пра "слонімскія палі" у Длугаша. Зазірнем у кнігу. Трэці том "Старажытнай Польшчы", у якім Міхал Балінскі (1794 — 1864) пісаў пра гісторыю ВКЛ, выйшаў у Варшаве ў 1850 годзе. Мы скарысталіся перавыданнем 1886 года. Праца

# Хто ж першы згадаў пра “палі Слонімскія” у 1040 годзе?

*Працяг, пачатак на ст. 1, 3.*

была дапоўнена і тэкст пра гарады ВКЛ трапіў у чацвёрты том.

Балінскі піша: *“Длугаш, таксама, як рускія і літоўскія летапісцы, успамінае, што ўжо ў 1040 або ў 1044* [годзе] *Яраслаў… князь рускі, сын Уладзіміра, спаткаўся на палях слонімскіх з Літвінамі і перамог іх”.*[8]

Зноў Длугаш! Адначасова з’яўляецца і новая дата — 1044 год (у ім адбыўся чарговы паход на Літву войска Яраслава).

Ва ўласным архіве ў падборцы артыкулаў па гісторыі Слоніма знайшлася публікацыя ў раённай газеце А. Сянкевіча “Старажытны Слонім” (на жаль, на ёй не пазначана дата і нумар, але з’явілася яна ў савецкія часы). Аўтар згадвае бітву 1040 года каля Слоніма і спасылаецца на трэці том твораў польскага гісторыка Нарбута. Знайсці гэтую кнігу было не цяжка.

Гісторык Тэадор Нарбут (1784 — 1864) двойчы піша пра бітву ў наваколлі Слоніма ў 1040 годзе[9] і спасылаецца на гісторыка Тамаша Свенцкага (1774 — 1837), аўтара двухтомніка “Апісанне старажытнай Польшчы”. Зазірнем у другі том, які быў надрукаваны ў 1816 годзе ў Варшаве. І чакае нас там нечаканая знаходка! Вось што піша Свенцкі ў кароткай нататцы пра Слонім: *“…на палях навакольных гэтага горада каля 1200 года Літвіны Князямі Рускімі былі разбітыя, сведчыць Каяловіч”.* [10]

Для нас тут дзве навіны. Першая — новая дата бітвы, відаць, памылковая. Другая — спасылка на Каяловіча (праўда, без назвы твору і года выдання). Але на іншай старонцы знаходзім згадку пра бітву 1040 года “на палях Слонімскіх” князя Яраслава з літвінамі. І спасылка на таго ж Каяловіча.[11]


Wspominaią dzieiopisowie że Jarosław Xiążę 1040 roku na polach Słonimskich zbił Litwinów, Koiałowicz mówi na kar: 49, że Roman Xiążę Halicki Litwinow do ciężarów i wozów naskztałt bydląt kazał wprzęgać, poległ ten Xiążę w bitwie z polakami pod Zawichostem około 1200 roku, a Litwa napadami swemi na Ruś okropnie swéy krzywdy pomściła się.

На ўсялякі выпадак зазірнулі ў паўторнае выданне другога тома. Калі б аўтар нешта наблытаў, то выправіў бы. Але там прысутнічаюць тыя ж згадкі і без зменаў.[12]

Нам заставалася толькі адшукаць двухтомную “Літоўскую гісторыю” Альберта Віюка-Каяловіча (1609 — 1677). Гэта — езуіт, тэолаг, гісторык, пісьменнік, геральдыст, прафесар і рэктар Віленскай

акадэміі (з 1653-га). Першы том выйшаў у Данцыгу ў 1650 годзе, другі — у Антверпене ў 1669-м.[13] “Літоўская гісторыя” выдадзена на латыні і арыентавана на чытача найперш у Заходняй Еўропе. *“Новая патрыятычная канцэпцыя гісторыка дазволіла значна пашырыць рамкі нацыянальнай памяці, паглыбіўшы яе сведчаннямі з раней невядомага кніжнага матэрыялу, а таксама забытымі звесткамі легендарнага характару”*, — піша даследчык Уладзімір Караткі.[14] Значыць, ёсць шанец, што гісторык мог спасылацца на невядомы нам дакумент. Аднак сустрэла нас расчараванне. У першым томе Каяловіча ёсць згадка пра паход на літвінаў галіцка-валынскага князя Рамана ў 1200 годзе (вось адкуль яна з’явілася ў Свенцкага). І крыху пазней згадваецца *“Слонімская раўніна”* (ці “Слонімскія палі”), але ўжо ў кантэксце падзей пачатку XIII стагоддзя, а не XI ст.![15] А даты “1040 год” у яго ўвогуле няма…

Што ж магло атрымацца? Тамаш Свенцкі “творча” перапрацаваў кнігу Альберта Віюка-Каяловіча і запусціў інфармацыю пра бітву 1040 года на “палях Слонімскіх”. Адбылося гэта ў 1816 годзе. Тэадор Нарбут у 1838-м гэта паўтарыў, а Міхал Балінскі — у 1850 годзе, але чамусьці спаслаўся на Яна Длугаша. Далей гэта бяздумна перапісвалі польскія, рускія і беларускія гісторыкі.

Мікола Ермаловіч у сваёй працы “Старажытная Беларусь” згадвае пра паход князя Яраслава на Панямонне і спасылаецца на… Длугаша: *“Я. Длугаш таксама гаворыць аб перамозе Яраслава над літвой у 1040 г., у выніку чаго той пакарыў значную частку нёманскага ўзбярэжжа. Прычым гэты гісторык удакладняе і месца перамогі: на палях слонімскіх”.* [16] Ермаловіч спасылаецца не на працу польскага храніста, а на кнігу… *“Живописная Россия”*, якая выйшла ў 1882 годзе. Знаходзім патрэбны нам том. Чытаем там наступнае: *“Слонім па летапісах вядомы ўжо ў XI ст. На палях Слонімскіх у 1040 г. Яраслаў… атрымаў перамогу над Літоўцамі і заваяваў значную частку Нёманскага ўзбярэжжа”.*[17] Аўтар тэксту — гісторык Адам Кіркор (1818 — 1886). І няма ніякіх спасылак на Длугаша.

Валянціна Караткевіч і Анатоль Кулагін абсалютна справядліва пісалі: *“Асобныя*




HISTORIÆ
LITVANÆ
PARS ALTERA,
SEV DE REBVS
LITVANORVM,
A coniunctione Magni Ducatus cum Regno Poloniæ ad VNIONEM eorum Dominiorum.
LIBRI OCTO
AVCTORE
ALBERTO WIIVK KOIALOWICZ
SOCIETATIS IESV S. THEOLOGIÆ DOCTORE.
ANTVERPIÆ
Apud IACOBVM MEVRSIVM
ANNO M. DC. LXIX.

ſubegit. Aſſecuti abeuntem Litvanum, audacius extrema agmina premunt, carpuntque : cæduntur multi, quos vel itinerum ratio, vel impedimentorum onera longiùs à reliquo exercitu abſtraxerant. Tandem cùm uterque exercitus in Slonimenſes campos fuiſſet effuſus, totis viribus commiſſæ acies. Primus impetus utriſque non incruentus, ad neutras tamen partes ſpem inclinavit. Pugnatur acriter : illinc prædæ amor, hinc ſuorum libertas, diu pari pernicie, eventu dubio, ſpiritus & prælium accendebat : donec ſubſidiariæ Ruſſorum cohortes leviter circumductæ, in nudatam defenſoribus Litvanorum à tergo aciem (quòd omnes in frontem averſi eſſent)

G 2 magno


ЖИВОПИСНАЯ
РОССІЯ.
ОТЕЧЕСТВО НАШЕ
П. П. СЕМЕНОВА.
ТОМЪ ТРЕТІЙ.

# Хто ж першы згадаў пра "палі Слонімскія" у 1040 годзе?

*Працяг, пачатак на ст.1,3-5.*

*даследчыкі без дастатковых падстаў сцвярджалі, што каля 1040 г. да Слоніма падыходзілі дружыны Яраслава Мудрага, а ўзнікненне горада адносілі да яшчэ больш ранняга перыяду".* [18] Яны мелі на ўвазе Васіля Мялешку, Міхала Балінскага, Браніслава Александровіча[19], а таксама шматлікіх іншых даследчыкаў.

Высновы такія. Паход 1040 года Яраслава Мудрага ў наш рэгіён быў. Але няма ніякіх вартых даверу пісьмовых сведчанняў, што ў той час ужо існаваў Слонім. 1040 год, як і 1044-ы, і 1036-ы, на жаль, нельга лічыць за першую згадку нашага горада. Але варта працягваць пошукі. Ужо ёсць новая дата — 1200 год. Слонім жа, як сведчаць археолагі, нашмат старэйшы за яе. Маштабныя раскопкі, у тым ліку і на Замосці, дзе імаверна існаваў першы слонімскі замак, могуць дапамагчы зрабіць крок наперад.

●Сяргей Ёрш


*[1] Гурскі Г. Пра знак "Слонім. Заснаваны ў 1036 годзе" // Слонімскі край, 2019, № 1(35). Студзень. С. 18.*
*[2] Мелешко В. Слоним (исторический очерк). — Минск, 1962. С. 3.*
*[3] Goldberg G. Zarys dziejów miasta Słonima". — Słonim, 1934.*
*[4] Ёрш С. Калі Слонім акупавалі польскія войскі ў 1920 годзе? // Слонімскі край, 2016, № 2. Сакавік. С. 9.*
*[5] Zarys dziejów miasta Słonima. С. 7*
*[6] Пра бітву 1040 года "на палях Слонімскіх" са спасылкай на "польскіх гісторыкаў Літвы" згадвае М. Мілакоўскі: Милаковскій М. Описаніе города Слонима. — Гродна, 1891. С. 5. Напісаў пра гэта, але без такой спасылкі, Іван Рамаяоўскі: Романовскій И. Положеніе города Слонима въ религіозномъ отношеніи въ Литве. — Гродна, 1897. С. 2.*
*[7] Супрун В. Дзеі над Шчарай (З гісторыі зямлі Слонімскай). — Слонім, 2000. С. 34. Гл. таксама: Супрун В. Слонімская зямля // Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Слонімскага раёна. — Мінск, 2004. С. 36-37.*
*[8] Starożytna Polska: pod względem historycznym, jeograficznym i statystycznym / opisana przez Michała Balińskiego i Tymoteusza Lipińskiego. — Warszawa, 1886. T. IV. С. 549.*
*[9] Narbutt T. Dzieje starożytne narodu litewskiego. — Wilno, 1838. T. III. С. 221, 224.*
*[10] Święcki T. Opis starożytney Polski. — Warszawa, 1816. T. 2. С. 227.*
*[11] Тамсама. С. 195.*
*[12] Święcki T. Opis starożytney Polski. — Warszawa, 1828. T. 2. С. 214, 250.*
*[13] Wiiuk-Koialowicz A. Historiae Lituanae... — Dantisci, 1650; Historiae Lituanae... — Antwerp, 1669.*
*[14] Короткий В. Русь, Литва, Москва между Рюриковичами и Палемоновичами в "Литовской истории" Альберта Виюка-Кояловича // Lietuvos Literatura, 2009. Кп. 27. С. 286.*
*[15] Historiae Lituanae... — Dantisci, 1650. С. 49, 51.*
*[16] Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Полацкі і навагародскі перыяды. — Мінск, 1990. С. 100*
*[17] Живописная Россія: Отечество наше въ его земельномъ, историческомъ, племенномъ, экономическомъ и бытовом значеніи. Т. 3. Литовское Полесье. Белорусское Полесье. — Санкт-Петербург, 1882. С. 195.*
*[18] Караткевіч В., Кулагін А. Помнікі Слоніма. — Мінск, 1983. С. 5.*
*[19] Aleksandrowicz B. Z przeszłości Słonima i ziemi słonimskiej. — Słonim, 1935. С. 6.*




*Працяг, пачатак на ст.1*

У нейкі момант здавалася, што малюнак вось-вось збярэцца, але нечага не хапала, трэба было праверыць меркаванні і здагадкі. І тады я вырашыла напісаць пісьмо ў Францыю Мары Клер Дэнармандзі, муж якой з'яўляецца прамым спадчыннікам Напалеона Орды. Гэтая гісторыя не мела б шчаслівага фіналу, калі б не дапамога настаўніцы англійскай мовы Ганны Бруцкай, маладой дзяўчыны, з якой мяне аб'ядноўвае любоў да гісторыі роднага краю. Наш ліст з апісаннем гісторыі рода Пятра Орды і капліцы ў вёсцы Бракава для сям'і Дэнармандзі стала прыемнай нечаканасцю. Мары Клер нам напісала: "Я прыемна здзіўлена вашым паведамленнем, і мы шмат ад вас даведаліся пра сям'ю Ордаў. Мы не ведаем пра сям'ю Пятра Орды нічога болей, чым тое, што вы маглі ўбачыць на маім генеалагічным сайце, але мы заўсёды цікавіліся гэтымі продкамі".

А цяпер — пра Ордаў.

ПОШУКІ І ЗНАХОДКІ

# Шляхамі Ордаў



*Капліца ў Бракава. Малюнак Напалеона Орды, 1860-1870-я гады.*

## Дзеравянчыцы і ваколіцы

У пісьмовых крыніцах вёска Дзеравянчыцы згадваецца ў XVI стагоддзі ў складзе Слонімскага павета Навагрудскага ваяводства Вялікага Княства Літоўскага. Вядома, што ў 1565 годзе Дзеравянчыцы ўваходзілі ў Даўгінецкае войтаўства Слонімскага староства.

Сёння Дзеравянчыцы і Бракава — гэта дзве маляўнічыя вёсачкі Слонімскага раёна. Тут асаблівае паветра, якім дыхаецца лёгка і вольна. А можа таму, што гэта было адно з любімых месц вядомага мастака Напалеона Орды? Вёсачкі вельмі прыгожыя ў кожную пару года. Зімою яны пакрыты пушыстым снегам і нагадваюць казачную даліну. Вясной і летам ўсе ў кветках і ў зеляніне, ну, а восенню апранаюцца ў залатое ўбранне. Заўважыў некалі прыгажосць вясковага пейзажу і мастак Напалеон Орда, які часта гасціў у маёнтку Дзеравянчыцы ў Пятра Апалінар'евіча Орды.

Напачатку XIX стагоддзя Дзеравянчыцы з'яўляліся вёскай Кастровіцкай воласці Слонімскага павета, цэнтрам маёнтку стацкага дарадцы і слонімскага суддзі Пятра Орды. Па рэвізіі 1834 года ў маёнтку налічвалася 236 сялянскіх душ.

Уявіць, як пашыралася гаспадарка маёнтка Дзеравянчыцы памешчыка, стацкага дарадцы і кавалера Пятра Орды, дапамагло інвентарнае апісанне ад 22 жніўня 1845 года, якое знаходзіцца ў Нацыянальным гістарычным архіве ў Гродне. Адтуль я даведалася наступнае. Маёнтак Дзеравянчыцы знаходзіўся ад губернскага горада Гродна ў 126 вярстах, да павятовага горада Слоніма было 6 вёрст, да ракі Шчары — 4 вярсты, да паштовай Брэсцкай дарогі — 1,5 вярсты. Маёнтак складаўся з фальварка Дзеравянчыцы, да якога належалі вёскі Дзеравянчыцы, Бракава, Новае Сяло і фальварак Скоўдзічы.

У маёнтку гаспадарка налічвала 47 дзесяцін зямлі, ворнай — 1365 дзесяцін, сенакоснай — 160 дзесяцін, іншай сенажаці — 2344 дзесяціны. Зямля ў маёнтку Дзеравянчыцы і Скоўдзічы ўрадлівая, залічана да першага разраду. Сялянскіх цяглавых двароў налічвалася 40. Усіх сялян: мужчын — 117, жанчын — 118 душ. Прыватная маёмасць сялян была наступная: прыватных дамоў — 28, дамоў ад эканоміі — 12. Хлявоў прыватных было 79, ад эканоміі — 12, кароў прыватных налічвалася 27, дробнай

*Працяг на ст. 8*

# Шляхамі Ордаў

*Працяг, пачатак на ст.1,7.*

прыватнай скаціны — 49, авечак — 136, свіней — 81. Вылічэнне падаткаў: за жыта — 52 рублі, за яравы хлеб — 52 рублі, за гародніну — 15,92 рублі, сена — 15 рублёў. Разам — 135, 52 руб.

Згодна інвентару 1845 года, у вёсцы Дзеравянчыцы было 11 двароў, 74 жыхары. Сярод мясцовых жыхароў згадваюцца наступныя сяляне: Восіп Дуброўскі, Сільвестр Жыдоўскі, Базыль Пясляк, Павел Радкевіч, Кандрат Пясляк, Іван Баркоўскі, Іван Сасноўскі, Андрэй Шляхцюк, Паўла Галах, Тамаш Белавусаў і Андрэй Пачынчык. У вёскі Бракава ў той час жылі: Пясляк, Сцяпан Кушнер, Сцяпан Салевіч, Янка Варывода, Аляксей Шыдлоўскі, Анупрый Пясляк, Лукаш Гніда, Мацвей Казук, Марцін Казук, Міхайла Тарасевіч, Антон Пясляк. Жыхары вёскі Новае Сяло: Міхайла Мазайла, Іосіф Пясляк, Андрэй Сабалеўскі, Матэвуш Казук, Майсей Пясляк, Сымон Пясляк, Шчарбаты, Юрка Ялоўчык, Антон Калюта, Антон Казук, Захар Куляшэвіч, Мацей Казук. Жыхары вёскі Скоўдзічы: Габруй Акуліч, Мікалай Кармянюк, Якаў Салейка, Франц Калюта, Адам Салейка, Лявон Кармяюк, сярод дваравых сялян — Аляксей Мягкі, Фама Кармяюк, Максім Возік, Зянон Мягкі, Павел Калюта, Аляксей Леўшын, Іван Снітко, Франц Пясляк, Варфаламей Когшун, Тэадор Карташэвіч, Анупрый Пінчук, Рыгор Саўрасаў, Аляксей Сталяроў.

Напачатку XIX ст. вёска Дзеравянчыцы Кастровіцкай воласці з'яўлялася цэнтрам вотчыннага маёнтку стацкага дарадцы і слонімскага суддзі Пятра Орды. У 1869 годзе ў вёсцы жылі 128 жыхароў, дзейнічаў вадзяны млын.

Мяжа маёнтка была высаджана акацыямі. Да сядзібнага дому Пятра Орды вяла алея, высаджаная кветкамі. Пры ўездзе ў флігель можна было назіраць шмат цудоўных кветкавых кампазіцый: штогод разбівалі кветнікі з розным дызайнам. У Дзеравянчыцах знаходзіўся двухпавярховы каменны сядзібны дом з флігелем і шматлікімі гаспадарчымі пабудовамі (дамы для рабочых, стайня, вадзяны млын). Працавалі спіртзавод, скіпідарна-смалагонны і цагляны заводы. Брукоўка ўздоўж алеі вяла да родавай капліцы Ордаў.



*Паштовая марка, прысвечаная Напалеону Ордзе, 2000 год.*

*Працяг у наступным нумары.*

●Святлана Брайчук,
настаўніца гісторыі СШ № 9
г.Слоніма

СЛОНІМСКІЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ

# Патрэба малітоўніка на беларускай мове для праваслаўных беларусаў

Жыровічы, Слонімскі павет. Беларуская народная сведамасць настолькі ахапіла нашы масы, што не знойдзецца хіба ніводнае вёскі, дзе не было б наскрозь сведамых адзінак. Народ, які жыве, мусіць праяўляць у ва ўсіх галінах сваё жыццё. Маем мы сваю свецкую літаратуру, але на жаль рэлігійнай няма. Беларусы-каталікі маюць хоць не багатую: малітоўнікі "Бог з намі", "Голас душы" і перыядычны часопіс "Хрысц[іянская] думка", а беларусы-праваслаўныя гэтага пазбаўлены. Выдаваўся калісьці часопіс "Праваслаўны беларус", "Зарніца", але ці ж гэтыя часопісы маглі задаволіць духоўныя патрэбы бел[арусаў]-прав[аслаўных]?! Дык вось адчуваецца на вёсцы вялікая патрэба [ў] рэлігійнай літаратуры для бел[арусаў]-прав[аслаўных] на беларускай мове, а перадусім патрэба, каб хоць малітоўнік быў на беларускай мове.

К. Няшчасны

*Беларуская крыніца (Вільня), 1929, № 28, 27 верасня.*


PATREBA MALITWIENIKA U BIEŁARUSKAJ MOWIE DLA PRAWASŁAUNYCH BIEŁARUSAU.

Żyrawicy, paw. Słonimski. Biełaruskaja narodnaja świedamaść nastolki achapiła našy masy, što nie znojdziecca chiba niwodnaje wioski, dzieby nie było naskroź świedamych adzinak. Narod, katory žywie, musić prajaŭlać u ważnich

На жаль, сапраўдныя імя і прозвішча "К. Няшчаснага" невядомыя. Высвятляецца, што ён спрабаваў пісаць вершы і адзін з сваіх твораў даслаў у рэдакцыю. Яму адказалі: *"Верш Ваш да друку не падыходзіць".* Жыхару Жыровічаў віленская беларуская кнігарня "Пагоня" мусіла даслаць каталог кніг, выдадзеных на роднай мове.

●ГГ

З АРХІВАЎ

# Ілжэпартызанскія групы на Слонімшчыне

На сайце Нацыянальнага архіву РБ сёлета пачалі змяшчацца разведвальныя зводкі Беларускага штабу партызанскага руху за 1944 год. Яны складаліся ў Маскве паводле паведамленняў, якія прыходзілі з-за лініі фронту ад савецкіх партызанаў у Беларусі. Часам у іх згадваецца і Слонімшчына. Напрыклад, у разведзводцы ад 18 лютага 1944-га гаворка ідзе пра антыпартызанскія мерапрыемствы, якія праводзілі нямецкія акупанты. У задачу створаных ілжэпартызанскіх групаў і атрадаў уваходзіў збор інфармацыі пра партызанскі рух, ліквідацыя ці захоп у палон невялікіх групаў партызанаў, а таксама кампраметацыя. Часам "ілжэпартызанскімі" савецкія партызаны называлі лясныя атрады, якія не падначальваліся іх кіраўніцтву і дзейнічалі самастойна.

●СЁ


Сов. секретно
РАССЕКРЕЧЕНО

БЕЛОРУССКИЙ ШТАБ ПАРТИЗАНСКОГО ДВИЖЕНИЯ

РАЗВЕДСВОДКА № 11(128)

"18" февраля 1944г. Карта 200.000

Борьба противника с партизанами

8-12.2. Слонимской полицией направлено в районы базирования партизанских отрядов большое количество шпионов для разведки их расположения; выслано также несколько лжепартизанских групп. Возле шоссейных дорог создаются полицейские /"оборонные"/ деревни, которые заселяются эвакуированными из восточных районов полицейскими семьями. Готовится прочесывание лесов, в котором будут принимать участие пехотные и кавчасти при поддержке танков и авиации.

ВЫВОД: Противник активными наступательными операциями

б/ кандидаты в офицеры,

в/ солдаты, передислоцирующиеся в составе полевых частей на запад.

ЗАМ.НАЧАЛЬНИКА БЕЛОРУССКОГО ШТАБА ПАРТИЗАНСКОГО ДВИЖЕНИЯ / И.ГАНЕНКО /

НАЧАЛЬНИК РАЗВЕДОТДЕЛА ПОЛКОВНИК / С. АНИСИМОВ /

IN MEMORIAM

# Слонім развітаўся з Уладзімірам Янушэвічам

15 лютага слонімцы развіталіся са сваім земляком фатографам Уладзімірам Янушэвічам. Ва ўзросце 52 гадоў вядомы ва ўсім Слоніме і ў іншых рэгіёнах Беларусі Уладзімір раптоўна пакінуў гэты свет. Але засталіся тысячы яго фотаздымкаў, пачынаючы ад вясковых эцюдаў, помнікаў Слоніма да партрэтаў сваіх землякоў, якія яго шчыра любілі і паважалі.

У Янушэвіча было шмат планаў і мараў па выданні розных альбомаў, паштовак, буклетаў, прысвечаных роднаму Слоніму. Але планы ўсе ажыццявіць так і не ўдалося. Тым не менш, землякам на памяць ён пакінуў некалькі камплектаў паштовак, прысвечаных Слоніму. Першы камплект паштовак “Слонім” пабачыў свет у 2002 годзе з нагоды 750-годдзя з дня згадкі горада ў Іпацьеўскім летапісе. Выйшла з друку 1000 такіх камплектаў. Два іншыя камплекты слонімскіх паштовак розных памераў былі надрукаваны ў 2007 годзе з нагоды 755-годдзя з часу першай згадкі Слоніма.

Новы цудоўны арыгінальны камплект сувенірных старых і новых паштовак Уладзімір выдаў у 2016 годзе. Гэта была першая частка ягонай задумкі. Сучасны і стары Слонім — на адной паштоўцы. Прадмову да гэтага камплекту паштовак пісаў я, дзе нагадаў, што Янушэвіч сустракаўся ў Польшчы з вядомым фатографам даваеннага Слоніма і Палесся 1920-1930-х гадоў Юзафам Шыманчыкам (1909 — 2003). Гэтую сустрэчу Уладзімір Янушэвіч запомніў на ўсё сваё кароткае жыццё.







Камплект старых і новых паштовак Уладзіміра Янушэвіча прэзентавалі ў Ізраілі падчас дамовы супрацоўнікаў Слонімскага райвыканкама наконт рэстаўрацыі сінагогі ў нашым горадзе.

●Сяргей Чыгрын

# Не стала Кандрата Надудзіка

Са спазненнем прыйшла вестка з Магілёва пра тое, што там летась у снежні памёр кандыдат эканамічных навук, дацэнт і публіцыст Кандрат Надудзік.

Кандрат Мацвеевіч Надудзік нарадзіўся ў вёсцы Хадзявічы ў 1940 годзе. Скончыў бухгалтарскае аддзяленне Столінскага сельскагаспадарчага тэхнікума (1958), эканамічны факультэт Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі (1966), педагагічны факультэт Ціміразеўскай сельгасакадэміі ў Маскве і аспірантуру ў Беларускім НІІ эканомікі ў Мінску (1972).

У 1959 годзе Надудзік вярнуўся на Слонімшчыну, працаваў бухгалтарам-эканамістам у калгасе “Перамога”, а пасля службы ў войску — выкладчыкам эканамічных дысцыплін і намеснікам дырэктара Клімавіцкага саўгаса-тэхнікума Магілёўскай вобласці.



*Кандрат Надудзік*

Пасля Клімавічаў Кандрат Надудзік працаваў выкладчыкам кафедры статыстыкі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках, дацэнтам кафедры эканомікі Магілёўскага машынабудаўнічага інстытута, з’яўляўся кіраўніком Магілёўскага абласнога аддзела Навукова-даследчага эканамічнага інстытута Мінэканомікі Рэспублікі Беларусь. Актыўна займаўся навуковымі даследаваннямі ў галіне рыначнай эканомікі і прагназіравання. Меў каля 70 навуковых прац, шмат пісаў артыкулаў на эканамічна-культуралагічныя тэмы, публікаваўся ў СМІ.

Тэма ягоных публікацый была самая разнастайная. Кандрат Надудзік пісаў пра навукова-тэхнічны прагрэс і адукацыйны ўзровень рабочай сілы, пра інтэнсіфікацыю вытворчасці, эканамічнае выхаванне мас, пра дэмаграфічную палітыку, пра праблемы эканамічнага стымулявання, пра праблемы рэгіянальнага гасразліку на ўзроўні абласцей і г. д.

Кандрат Надудзік некалькі разоў на год бываў у роднай вёсцы Хадзявічы. Яго цікавіла ўсё: як жывуць землякі, які маюць заробак, чаму знішчаецца вёска і паміраюць людзі. Ён шмат пра гэта пісаў і разважаў — і ў раёнцы, і ў “Газеце Слонімскай”, і ў рэспубліканскай прэсе.

Пахавалі Кандрата Надудзіка ў Магілёве.

●Сяргей Чыгрын

ХРОНІКА

# Згадалі пра паэта Таўлая

У бібліятэках Слонімшчыны прайшлі мерапрыемствы, прысвечаныя 105-м угодкам з дня нараджэння паэта Валянціна Таўлая. Гэтая дата прыпадала на 8 лютага (26 студзеня па старым стылі). Таўлай у міжваенны час жыў у вёсцы Рудаўка. Памёр у 1947-м у Мінску.

Гледзячы на гэты здымак, думаецца, што “савецкі” — абсалютна лішняе. Пра таго ж Сяргея Хмару мы не пішам “несавецкі”. Гэта штучны падзел, ад якога варта ўжо адмовіцца. Усё ж жывем у XXI стагоддзі.

●Генадзь Гурскі



ПОШУКІ І ЗНАХОДКІ

# Песня Сямёна Рыпінскага

*Працяг, пачатак на ст.1*

людзей. Тут згадваюцца вёскі Хадзявічы, Казловічы, Елка, луг Серакоўка, прозвішчы і імёны Гулевічы, Мойшы, Орко, Еля, стары Абрам, Енкель, Штэмфель, Бася, Ярашэнько, Марцін Борчык, Пабудзей — у асноўным, гэта былі яўрэі. Адшукаў Мікола Хаўстовіч вершаванае апавяданне ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва ў справе №158 пісьменніка Лукаша Бэндэ (1903 — 1961). Дарэчы, сам будынак Сынковіцкага спіртзавода захаваўся да сённяшніх дзён. Яго мы сфатаграфавалі.

У спасылках Хаўстовіч прыгадвае І. І. Аўсейца, які жыў у вёсцы Кастровічы і быў уласным карэспандэнтам вядомага беларускага педагога, этнографа і фальклярыста Паўла Шэйна (1826 — 1900). Відаць, Аўсейц працаваў настаўнікам і запісваў тутэйшы фальклор, дасылаў яго Шэйну. Пісьменнік з Кастровіч Уладзімір Ягоўдзік, які апрацоўваў казкі Паўла Шэйна, сказаў, што яму прыгадваецца прозвішча Аўсейца, які запісваў казкі. Але спадар Уладзімір быў дужа здзіўлены, што гэты Аўсейц — яго зямляк з вёскі Кастровічы.

Адным словам, знаходка Міколы Хаўстовіча вельмі шмат нясе разгадак, загадак і адкрыццяў. Публікуем сёння песню Сямёна Рыпінскага з каментарыямі даследчыка. І сучасныя фотаздымкі будынку Сынковіцкага спіртзавода. Дарэчы, спірт там ужо шмат гадоў не вырабляецца.

●Сяргей Чыгрын



## За спірт і за гарэлку…

Вялікае вершаванае апавяданне[1], выяўленае ў архіве, у справе называецца наступным чынам: *“Песнь составленная в 1867 г. крест*[ьянином] *д. Козлович Семеном Рипинским по поводу воровских проделок, учиненных на винокуренном заводе им*[ения] *Сынкович двумя рабочими из дер. Елки, за что, к*[а]*к*[2] *им, так и другим рабочим, имение отказало в заработках на том заводе”.*

У шесьдзесят седьмом гаду,
Аб’явілі[3] у нас вайну
Два Гулевіча/1/ — на усю
Сыньковичскую імперыю
Набераліcь яны злосці,
Начавалі усе ў каросці;
Дажыдалі суботы,
Нарабілі работы;
Захацелі выгоды
І палезлі на сходы...
Яны цяжка уздыхалі, —
Іх са сходаў паспіхалі!
Рабочіе услыхалі
І да Моўши/3/ прыскакали: —
Прабудзісь, Моўша, ў періні/4/.
Бо там воры есць на рыні!/5/
Мої вы — рабочіе,
Слугі найвярнейшые!
Не уважайце нічаго,
Не бойцеся нікаго!
Есць у мяне стары Абрам/6/
Ен кажа/7/ “Я ніц не дам!”[4]
Есць у мяне адзін Еля/8/
Ен то іх ўсіх памеле!
Не глядзеў Моўша на шабас[5]
Дай прыскочыў туды зараз;
Даў салдату адну ляпу[6]
І салдат той згубіў шляпу
Яны два/12/ — голы, як бічі/13/,
Уцякаюць у Хадзевічі/15/,
Я ж убегу чрез Серакоўку/16/;
Пападу я ў саму Елку/17/
І нажену сабе колку[7]!
За спирт да за гарелку —
Узбунтаваў я усю Елку;[8]
Сабраў я тагды раду
І прывадзіў ў двор грамаду!
Мы/19/ затор/20/ усе зацерялі,
Яны (Гулевичы) на то пазіралі.
Ах, вы — гіцлі, каналупцы!/22/
Есцека у нас тры купцы!
Зададуць яны вам перцу;
Будзе прыкренька на сэрцу!
Адзін купец у нас — Орко/24/,
Будзе ім (Гулевічам
+ врагам)[9] на
душигорко!
Ходзіць па дзедзінцу Енкель/26/

А судзіць іх за то Штэмфель!/27/
Ім та штучка не ўдалася,
А нас разгажае[10] Бася/29/.
Мої вы — рабочіе,
Слугі найвернейшіе!
Не уважайце нічаго,
Не бойціся нікаго!
Як прыедзе Ярошенько/30/,
Той асудзіць харашенько!
Ох, ты, салдатік палковой,
Пацераў ты шесць целковых!
Просіць салдат —
гренадзера[11]
Да памоцы Пабудзея/31/;
І нашаму суду кончик,
А бунтуе Марцін Борчик/32/!
Наша песня — да канца,
Нам па рюмачке вінца!
Вот, мы песенку спелі,
Мы яиницу з'елі;
Когда будзе весело,
То запросим усе село!

Л. Бэндэ, аднак, не пазначыў лацінкаю ці "кірыліцаю" быў пісаны арыгінал. Няма таксама згадкі і пра тое, хто зрабіў прыпісы-каментары да верша, і чаму адзінаццаць з іх адсутнічае.[15]

●Мікола Хаўстовіч,
прафесар Варшаўскага
ўніверсітэта

Каментары невядомага, магчыма, І. Аўсейца:

/1/ Одинизних С. был салдат, а другой Л. крестьянин.
/2/ Арендаторим. Сынкович.
/5/ Рина[12] идущая из винокурни на двор.
/6/ Надсмотрщик за волами.
/8/ Елька, который был мукомолом, вернее, досмотрщиком муки в имении.
/10/ Гулевичу.
/12/ Гулевичи.
/13/ Кк кнуты.
/15/ дер., находящееся 6½ вер. от Сынкович.
/16/ Луг за священнической усадьбою и рощей.
/17/ дер. наход. в 1 вер. от Сынкович.
/19/ Все винокур. рабочие.
/20/ Приглашение на роботу.[13]
/22/ Коноводы. такими словами ругали Сем. и Луку Гулевичей евреи.
/24/ Корчмарь прожив. в д. Хадевичах.
/26/ Слонимский [неразб.] под третьим же купцом подразумевается сам арендатор Мовша.
/27/ Прозвище акцизника.
/29/ Жена арендатора Мовши.
/30/ Акцизный управляющий.
/31/ кр. дер. Козлович приглашенный солдатом С. Г., в качестве свидетеля.
/32/ Свидетель из крестьян д. Елки.[14]

Каментары Міколы Хаўстовіча:

[1] Паводле вопісу: "158. *Песни хлыстов Калужской губернии.* 18 лл.". Відаць, нумар справы пададзены памылкова. Справы з матэрыяламі са Слонімскага павета — гэта №№ 116-123.
[2] Тут і далей скарачэнне, відаць, Л. Бэндэ: как.
[3] Напісанне літараў і, и ды ў Л. Бэндэ не тлумачыць.
[4] Збоку прыпіс: "Был верным слугою".
[5] Шабас (ці шабат) у жыдоў і хрысціян — гэта субота, апошні дзень тыдня (ад захаду сонца ў пятніцу да захаду сонца ў суботу). Памятка, што ў сёмы дзень пасля заканчэння Тварэння Бог адпачываў.

*Заканчэнне на ст.14.*


Так выглядае сёння былы спіртзавод у Сынковічах

# Песня Сямёна Рыпінскага

*Заканчэнне, пачатак на ст.1,12-13*

[6] Спачатку — плату. Гл.: Насовіч І., *Слоўнік беларускай мовы.* — Мінск, 1983. С. 276: “ЛЯПЪ, отгл. слово, означающее 1. Стучаніе. *Ляпъ-ляпъ въ хвортку, а никого не чуць.* 2. Ударъ. *Ляпъ по щоцѣ*”.
[7] Наганю сабе колікі (боль у грудзях ці жываце).
[8] Збоку прыпіс: “Не солдат, нокрестьян”.
[9] Тут тлумачэнне перапісчыка знаходзіцца ў сярэдзіне радка.
[10] Прыводзіць да згоды.
[11] Збоку прыпіс: “Салдат-гренадзер”.
[12] Гл.: Насовіч І. *Слоўнік беларускай мовы.* С. 276: “РИНА, ы, с. ж. (отъ Слав. Ринути). Желобъ или водяной мѣшокъ въ водяной мельницѣ, устраеваемый наклонно съ цѣлію дать стремительное паденіе водѣ на мельничное колесо. *Вынь застовку, пусци воду въ рину*”.
[13] Хутчэй за ўсё перапісчык недакладна тлумачыць слова “затор”. Тут гаворка пра сусла — саладкаваты навар на муцэ і солодзе.
[14] БДАМЛіМ. Ф. 66, воп. 1, адз. зах. 563, арк. 21-24.
[15] У вёсцы Кастровічы Слонімскага павета жыў карэспандэнт П. Шэйна І. І. Аўсейц (И.И. Овсейц). Магчыма, гэта ён даслаў у Пецярбург, запісаны і пракаментаваны ім верш мясцовага паэта. Гл.: СПФ АРАН. Ф. 104, воп. 2, спр. 151[online] http://www.isaran.ru/bookreader/bookreader.php?guid=27AAEA2C-1400-44FA-B8C9-CBB105619F80&ida=2&kod=4#page/24/mode/1up [доступ: 06.09.2018].

# Першы капіталіст Беларусі і Шылавічы

У апошнім нумары часопіса “Наша гісторыя” (2019, № 2) змешчаны артыкул Аксаны Данілевіч пра графа Войцеха Пуслоўскага, жыццё і дзейнасць якога цесна звязана са Слонімшчынай. Яго яна называе “першым капіталістам Беларусі”. А рабіў ён першыя крокі ў сваёй гаспадарчай дзейнасці якраз на Слонімшчыне. У далейшым меў прадпрыемствы і ў іншых рэгіёнах. Пуслоўскі паказаў сябе таленавітым і вынаходлівым, кажучы па-цяперашняму, бізнесменам.

Ужо не раз у гістарычных публікацыях даводзілася сустракаць згадку, што Шылавічы знаходзяцца каля ракі… Ісы. Вось і Данілевіч піша, што Войцех Пуслоўскі адкрыў папяровую фабрыку “у Шылавічах пад Слонімам, на рацэ Іса” (працавалі на ёй 7 чалавек). І далей аўтар піша: “Прадпрыемства на Ісе існуе і сёння: цяпер гэта Слонімскі кардонна-папяровы завод “Альбярцін”.

Далей Аксана Данілевіч працягвае трымацца памылковай думкі, што “першы ў Беларусі прамысловы комплекс вырас у ягоных Шылавічах”. Нарэшце яна прыходзіць да высновы, што граф Уладзіслаў Пуслоўскі, сын Войцеха, “перайменаваў мясцовасць, дзе знаходзілася сядзіба… з Шылавічаў у Альбярцін”. Ну а “цяпер Альбярцінам завецца адзін з мікрараёнаў Слоніма”.

Калі паверыць Данілевіч, то атрымліваецца, што Шылавічы на сённяшні дзень знаходзяцца ў Слоніме. Якая неспадзяванка для жыхароў аграгарадка!

Дзе тыя Шылавічы, а дзе Альбярцін з Ісай. На жаль, некаторыя даследчыкі даволі павярхоўна вывучаюць тэму і робяць такія кур’ёзныя памылкі.

●СЁ





ПОШУКІ І ЗНАХОДКІ

# Невядомы верш Янкі Бялькевіча

Беларускі мовазнавец Янка Бялькевіч (1883 — 1960) нарадзіўся на Слонімшчыне ў вёсцы Варонічы. Скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю, пасля чаго быў загадчыкам чатырохкласнай школы ў вёсцы Бракава Слонімскага павета.



*Янка Бялькевіч*

Перад пачаткам Першай сусветнай вайны сям'ю Бялькевічаў, як і тысячы беларускіх сем'яў, выгналі ў бежанства ў Расію. Яна апынулася ў Саратаўскай вобласці. Там было цяжка жыць, і ў 1919 годзе беларусы вярнуліся на Бацькаўшчыну. Янка Бялькевіч пачаў працаваць загадчыкам Вароніцкай беларускай школы, потым інспектарам беларускіх школ Слонімскага павета. Шмат чытаў беларускіх выданняў з Вільні.

Настаўнік вельмі перажываў за землякоў, хацеў, каб беларусы, што вярнуліся з бежанства, хутка абжыліся, каб мелі свой дом, зямлю, гаспадарку. Аднойчы ён нават напісаў верш "Жаданне", які даслаў у Вільню ў рэдакцыю газеты "Незалежная Беларусь". І верш надрукавалі ў першым нумары за 1919 год. Праўда, пра тое, што Янка Бялькевіч займаўся паэзіяй, ніхто ніколі не пісаў. Аказваецца, наш вядомы мовазнаўца пачынаў свой шлях з паэзіі. Яго верш прапаную чытачам "Слонімскага краю".

Згадаю яшчэ, што Янка Бялькевіч працаваў дырэктарам Мсціслаўскага педтэхнікума, у Інбелкульце быў спачатку сакратаром аддзела гуманітарных навук, а пасля спецыялістам слоўнікавай камісіі. У 1930 годзе яго беспадстаўна абвінавачаны ў нацыяналізме і выслалі за межы Беларусі. Працаваў на лесапавалах, потым жыў у Азова-Чарнаморскім краі, у Марыупалі, быў інжынерам-метадыстам Данецкага будаўнічага тэхнікума.

У 1960 годзе Янкі Бялькевіча не стала. Ён так і не атрымаў дазволу вярнуцца на Радзіму. Пасля яго смерці ў 1970 годзе родныя і блізкія яму людзі выдалі "Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны", над якім Бялькевіч шмат гадоў працаваў.

●Сяргей Чыгрын



Жаданьне.

Шчабячы, ты салавейка,
У зялёным гаі,
Залівайся як жалейка
У родным маім краі;

Прапяі ты мне міла птушка,
Як жывуць на сьвеце
Беднай маей Беларусі



НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ

ПАЛІТЫЧНАЯ - ГРАМАДЗЯНСКАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ЧАСОПІСЬ

Рэдактар і выдавец А. КАРАБАЧ

Выходзіць ТРЫ разы у тыдзень:
у панядзелкі, серады
і пятніцы.

№ 1.



Янка Белькевіч

Жаданне

Шчабячы, ты салавейка,
У зялёным гаі,
Залівайся як жалейка
У родным маім краі.
Прапяі ты міла птушка,
Як жывуць на свеце
Беднай маёй Беларусі
Нешчаслівы дзеці.
Дзе яны цяпер блукаюць,
Па якіх дарогах,
І як яны абіваюць
Чужыя парогі?..
І якую яны зносяць
Пагарду, пакуту…
І як яны Бога просяць,
Каб змяншыў іх мукі.
Каб памог ім Бог сабрацца
Каля сваёй маткі,
Сваю ўласну збудаваці
Хоць маленьку хатку.

Янка Бялькевіч,
1919 г.

КНІГІ ПРА СЛОНІМ

# Пра часы "праваслаўнага росквіту"

*Романовский И. Положеніе города Слонима въ религіозномъ отношеніи въ Литве. — Гродна, 1897.*


Е 52/557

801-18/856

ПОЛОЖЕНІЕ
ГОРОДА
СЛОНИМА
ВЪ
РЕЛИГІОЗНОМЪ ОТНОШЕНІИ
ВЪ ЛИТВѢ.

М.П.М.

ГРОДНА.
ГУБЕРНСКАЯ ТИПОГРАФІЯ.
1897.

Іван Раманоўскі напісаў некалькі навукова-папулярных кніг, прысвечаных гісторыі нашага горада. Пра некаторыя з іх "СК" ужо распавядаў раней.* У гэтым нумары згадаем кнігу пра рэлігійнае жыццё ў Слоніме.

Хібай працаў Раманоўскага з'яўляецца іх палітызаванасць, аднабокасць у падачы матэрыялу і ў трактоўцы падзей. Для яго Беларусь/Літва — гэта *"руская зямля"*, беларусы/літвіны — гэта *"рускі народ"*, Слонім — *"спрадвечны рускі горад"*. Пазіцыя гэтага "адданага байца імперыі" зразумелая. Магчыма, ён і ўсведамляў яе заганнасць, але дакладна і сумленна выконваў тагачасную "дзяржаўную замову". Прапагандысцкая машына расійскіх уладаў мусіла даказаць права Масквы на землі былога Вялікага Княства Літоўскага.

Каштоўнасць кніг Івана Раманоўскага ў тым, што ён прыводзіць у іх шэраг цікавых фактаў. Ёсць такія і ў працы "Становішча горада Слоніма ў рэлігійных адносінах у Літве". Раманоўскі мяркуе, што ў нашым горадзе *"праваслаўная вера... зацвердзілася вельмі рана"*. Альбо пры жыцці кіеўскага князя Уладзіміра, альбо ў часы праўлення яго сына Яраслава Мудрага. І да XII стагоддзя тут быў росквіт праваслаўя пад *"аховай сваіх праваслаўных рускіх князёў"*. А пасля Слонім стаў *"літоўскім горадам"* г. зн. увайшоў у склад ВКЛ.

Увогуле аўтар падзяліў слонімскую гісторыю на тры перыяды: першы — ад заснавання горада да часоў Ягайлы, калі быў *"праваслаўны росквіт"*; другі — з канца XIV стагоддзя і да ўвядзення рэлігійнай Уніі (канец XVI ст.), калі пачынаецца польскі ўплыў, паланізацыя, *"лацінская прапаганда"*, але некаторыя каралі Рэчы Паспалітай яшчэ спрыялі праваслаўю; трэці — ад Уніі да падзелу Рэчы Паспалітай, калі рыма-каталіцкая царква займала пануючае становішча на нашых землях.

На час утварэння ВКЛ, піша аўтар, у горадзе верагодна было

6 праваслаўных цэркваў і свой епіскап. Але гэта толькі здагадка Раманоўскага. У першай палове XIV стагоддзя налічвалася ўжо 9 праваслаўных цэркваў. Самымі старажытнымі Іван Раманоўскі называе Свята-Троіцкую і Ільінскую. Першая была пабудавана на Спаскай вуліцы (цяпер — Васі Крайняга) *“у самыя старажытныя часы”*, а другая знаходзілася на месцы, дзе ў XVII стагоддзі пабудавалі касцёл і кляштар бернардзінак. Таксама называюцца Спаса-Праабражэнская, Васкрасенская, Мікалаеўская і Косма-Даміянаўская (названая ў гонар лекараў-цудатворцаў святых Космы і Даміяна III-IV стагоддзяў). Яшчэ пра тры праваслаўныя храмы Раманоўскі не знайшоў звестак.

Слонім быў важным горадам у ВКЛ, таму паланізатары надавалі яму вялікую ўвагу. Яшчэ да Люблінскай уніі 1569 года пачалі закрывацца цэрквы і адкрывацца касцёлы, піша аўтар. Ён адмоўна ставіцца да пераходу ў Унію праваслаўнага духавенства, праваслаўнага дваранства. А ў XVII-XVIII стагоддзях адчулася *“магутная хітрая палітыка езуітаў”*, якія *“пачынаюць… знішчаць у краі ўсё рускае”*. *“Ворагамі рускага чалавека на Літве былі палякі з яўрэямі”*, — адзначае аўтар. І толькі некаторыя каралі Рэчы Паспалітай аказвалі падтрымку праваслаўным, Іван Раманоўскі цытуе шэраг дакументаў.

Недахоп гістарычных дадзеных у Раманоўскага адчуваецца. Часам ён піша блытана. На месцы Ільінскай царквы пабудавалі касцёл, але згадвае яе ў сярэдзіне XVIII стагоддзя. Ці яе ўзвялі на іншым месцы? Аўтар піша, што ў другой палове XVIII стагоддзя ў Слоніме застаўся толькі адзін праваслаўны храм — Спаса-Праабражэнскі. Але не ўдакладняе, дзе ж ён знаходзіўся.

Пасля падзелу Рэчы Паспалітай і ўваходжання Беларусі ў склад Расійскай імперыі рускія вывелі праваслаўных *“з рымскага палону”*, лічыць Іван Раманоўскі. Зразумела, ён не згадвае, якія гвалтоўныя метады выкарыстоўваліся новымі ўладамі. Нават імператар Павел І падчас знаходжання ў 1797 годзе ў Слоніме загадаў праводзіць больш лагодную палітыку да ўніятаў.**

*“У цяперашні час у Слоніме праваслаўе ззяе ва ўсім бляску сваёй рэлігійнай велічы”,* — пафасна піша аўтар пра канец XIX стагоддзя. На той час у горадзе дзейнічалі два праваслаўныя храмы — Спаса-Праабражэнскі і Свята-Троіцкі (былыя касцёлы) і два рыма-каталіцкія — пры кляштары бернардзінак і на Замосці.

●Сяргей Ёрш

**Герасімчык В. Раманоўскі пра “рускі” Слонім // Слонімскі край, 2016, № 4. Травень. С. 11.*

***Ёрш С. Што пісаў расійскі імператар Павел І у Слоніме 220 гадоў таму // Слонімскі край, 2017, № 11(21). Лістапад. С. 18.*

# Дакументы па гісторыі Слонімшчыны

На сайце archives.gov.by змешчаныя ў свабодны доступ юрыдычныя дакументы XIV-XVIII стагоддзяў, некаторыя з якіх маюць непасрэднае дачыненне да Слонімшчыны. Сярод іх — запіс сакратара размеркавальнай камісіі Слонімскага павету пра выбары войта Дзявяткаўскай воласці ад 1796 года, інструкцыя слонімскага сейміка паслам на сейм ад 1756-га, акт Слонімскага павета і інструкцыя паслам ад 1767 года. Але самы цікавы дакумент — “Спіс пра прывілеі і граматы горада Слоніма і яго даходаў…” ад 30 верасня 1832 года. З яго, між іншым даведваемся пра прададзены ў пачатку XIX стагоддзя гарадскімі


Списокъ о привилегіяхъ и граммотахъ Города Слонима
оного доходахъ, означающихъ первоначальныя занятія Слоним
Городоваго Коммитета.

ўладамі графу Пуслоўскаму папяровы завод. А ён з 1819-га перастаў выконваць умовы здзелкі — плаціць 15 рублёў срэбрам і дасылаць тры стосы паперы. Дзесьці ў той час улады Слоніма прадалі за 1200 рублёў срэбрам верхні паверх нейкага каменнага будынка. Няўжо ратушы?

Шкада, што архівісты выстаўляюць падобныя дакументы ў не самай лепшай якасці. Ёсць ім чаму павучыцца ў замежных калегаў.

●Генадзь Гурскі

НАГОДА

# Забыты гісторык з Чамяроў

Пра доктара гістарычных навук з Чамяроў Міхаіла Міско звестак захавалася вельмі мала. Сціпла і рэдка пра яго згадвалі рэспубліканскія выданні. А апошнім часам і зусім забыліся пра чамяроўскага гісторыка.

Нарадзіўся Міхаіл Міско ў вёсцы Чамяры 17 лютага 1904 года ў сялянскай сям'і. Першая сусветная вайна выгнала яе ў бежанства, ажно ў горад Сярдобск Пензенскай губерні. Там хлопчык пачаў вучыцца ў школе, а пасля вяртання ў Чамяры працягваў вучобу ў роднай вёсцы.



*Міхаіл Міско з дачкой Ганначкай*

У 1920 годзе, калі Слонімшчына адышла пад Польшчу, Міхаіл Міско нелегальна перайшоў мяжу і праз пэўны час апынуўся ў Маскве. Там ён здаў экзамены і паступіў на гістарычны факультэт Маскоўскага ўніверсітэта. Паспяхова яго скончыў, працягваў вучобу ў аспірантуры Інстытута чырвонай прафесуры.

У гады Другой сусветнай вайны наш зямляк быў ваенным карэспандэнтам. А пасля зноў вярнуўся ў Маскву, дзе да 1964 года працаваў у Інстытуце славяназнаўства Акадэміі навук СССР. Памёр Міхаіл Міско ў 1972 годзе.

У вёсцы Чамяры на Слонімшчыне жыла Тамара Якаўлеўна Лаўрашчук, родная пляменніца Міхаіла Васільевіча Міско. Гадоў 15 таму я сустракаўся з ёй і пытаўся пра гісторыка Міско. Са слоў Тамары Якаўлеўны мне тады стала вядома, што яе тата і Міхаіл Міско былі роднымі братамі. Шмат гадоў родныя не ведалі, дзе знаходзіцца Міхась, таму што доўгі час Слонімшчына была ў складзе Польшчы, а брат жыў дзесьці ў Савецкім Саюзе. І толькі пасля 1939 года атрымалі вестачку з Масквы.

*"Дзядзька Міхась да нас прыехаў за дзень да пачатку вайны,* — успамінала Тамара Якаўлеўна. — *Мы вельмі яго чакалі і былі шчаслівымі ад сустрэчы. Але на другі дзень гітлераўская Германія напала на Савецкі Саюз. І мой тата з дзядзькам пайшлі ў Слонімскі ваенкамат, каб спытацца, што ім рабіць. Бацьку адпусцілі дамоў, а дзядзьку сказалі тэрмінова вяртацца назад у Маскву. Так мы з ім зноў развіталіся на цэлыя чатыры гады".*

Пасля вайны Міхась Міско часта наведваў родныя Чамяры. У хаце Тамары Якаўлеўны Лаўрашчук захоўвала кнігі яе дзядзькі з аўтографамі. Дзве кнігі ён падпісаў роднаму брату, а адну — пляменніцы: *"Маёй пляменніцы Тамары ад аўтара. Кастрычнік, 1962 г. М. Міско".*

Тамара Якаўлеўна таксама расказвала, што яе дзядзька вельмі позна ажаніўся. Жонка яго была бібліятэкарам. У іх нарадзілася дачка Ганначка (Аня — так яе ўсе называлі). Яна цяпер жыве ў ЗША. Пляменніца Міхася Міско паказвала і фотаздымкі дзядзькі.

Пры жыцці Міхаіл Міско выдаў дзве кнігі і быў сааўтарам некалькіх выданняў. Найперш наш зямляк даследаваў гісторыю Польшчы, асабліва эканамічнае і палітычнае становішча Польшчы на пачатку XX стагоддзя.

У 1958 годзе ў Маскве выйшла вялікае трохтомнае даследаванне "Гісторыя Польшчы", дзе асобныя раздзелы па гісторыі суседняй дзяржавы былі напісаныя Міхаілам Міско.

А першая ўласная гістарычная манаграфія нашага земляка пабачыла свет у Маскве ў 1957 годзе. Яна называлася *"Октябрьская революция и восстановление независимости Польши"*, дзе аўтар разглядае польскае пытанне і становішча польскіх зямель напярэдадні Першай сусветнай вайны і падчас акупацыі Польшчы германскімі і аўстрыйскімі войскамі, а таксама становішча



*Пасля доўгага расстання Міхаіл Міско (стаіць злева) сустрэўся са сваімі братам Якавам, сястрой Аленай, маці Соф'яй Іванаўнай і пляменнікамі. Чамяры, 1952 год.*



*Якаў і Міхаіл Міско, 1950-я гады.*

падчас рэвалюцыі ў Расіі 1917 года.

Другая кніга называлася *"Польское восстание 1863 года"*, яна прысвечана паўстанню пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Вядома, цяпер аўтар па-іншаму назваў бы сваё выданне, а тады, на пачатку 1960-х гадоў, ён гэтага зрабіць не мог. Яму проста не дазволілі б.

●Сяргей Чыгрын

ХРОНІКА

# Слонімец стаў памочнікам Аляксандра Лукашэнкі



У лютым 2019-га Віталь Прыма стаў памочнікам кіраўніка дзяржавы, інспектарам па горадзе Мінску. Ён нарадзіўся ў Слоніме ў 1976 годзе, скончыў гімназію № 1. Пасля заканчэння Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта працаваў у прамысловасці, пасля — у міністэрстве, быў намеснікам міністра прамысловасці. У 2012 годзе ён стаў паслом Рэспублікі Беларусь у Індыі, а па сумяшчальніцтве — у Бангладэш, Непале, Шры-Ланцы.

Нельга сказаць, што прызначэнне Віталя Прымы стала нечаканасцю. Апошнім часам беларускія дыпламаты запатрабаваныя, прызначаюцца на самыя розныя пасады, нават ва ўрад. А ў слонімца маецца сур'ёзны досвед працы ў прамысловасці. Менавіта кантроль за развіццём эканомікі ў сталіцы і стане адной з галоўных задач чыноўніка.

●ГГ

*Фота: twitter.com/vitalyprima*

СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# Супрацоўнікі Чырвонага Крыжа ў Слоніме, 1930-я гады



Гэты здымак быў зроблены ў 1930-х гадах у слонімскім парку. Парк заклалі яшчэ да Першай сусветнай вайны — паміж сучаснымі вуліцамі Пушкіна і Хлюпіна. Гэта па сутнасці быў рэнесансны парк з танцпляцоўкай, альтанкай і лавачкамі. А потым, пасля Другой сусветнай вайны, парк чацвертавалі на дзялянку для дзіцячага садзіка, для прыватных забудоў, для мемарыяла з Вечным агнём, калі сам парк на той час быў ужо зялёным прыгожым мемарыялам.

Да вайны ў гэтым парку любілі ўсе фатаграфавацца. І нават супрацоўнікі Слонімскага Чырвонага Крыжа зрабілі фота на памяць менавіта там. Атрымаўся гістарычны і прыгожы здымак. У першым радзе (пяты справа) сядзіць доктар Уладыслаў Маліноўскі. Ён у свой час скончыў Маскоўскі медуніверсітэт, стаў земскім урачом. Пры Слонімскім магістраце доктар Маліноўскі узначальваў Чырвоны Крыж — нешта накшталт паліклінікі, дзе кожны мясцовы жыхар бясплатна мог атрымаць медыцынскую дапамогу. Пры ўрачы быў і фельчар — гэтую пасаду займаў бацька нашага пісьменніка Алега Лойкі — Антон Лойка (стаіць трэці злева ў другім радзе). Менавіта Маліноўскі вывеў Антона Лойку ў сапраўдную медыцыну, у народныя лекары. У 1931 годзе ён паслаў яго ў Варшаву на санітарныя курсы. А пасля курсаў Лойка стаў санітарным кантралёрам усяго даваеннага Слоніма.

Дарэчы, доктар Уладыслаў Маліноўскі быў знаёмы з паэтам Янкам Купалам і нават яго лячыў.

Побач з Маліноўскім на фота (справа ад яго) сядзіць нехта Кавальчык. Якую пасаду ён займаў — невядома. Трэці справа сядзіць вядомы на той час у Слоніме доктар Эфрас. Пра астатніх асобаў на гэтым здымку звестак адшукаць не ўдалося.

●Сяргей Чыгрын

"Слонімскі край" — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару Сяргей Чыгрын.

Наш адрас: slonimskikraj@gmail.com

Спасылка на "СК" пры перадруку абавязковая.